горад на поўдні Гішпаніі, на беразе мора. Скончыла бакалаўр па славянскай філялогіі ў Гранадзе, потым пераехала ў Варшаву, паступіла на магістратуру і вывучаю беларусістыку.

**Як захапіліся беларускай мовай?**

– Цытую трохі сябе, бо нядаўна напісала вялікі тэкст пра гэта. Прабачце, што на тарашкевіцы: Пачну з таго, што ў мяне з падлеткавых гадоў ёсьць вельмі добрыя беларускія сябры, дзякуючы каму я даведалася, што існуе такая краіна. (Не, трохі перабольшваю. На занятках геаграфіі нам казалі, што „вось тут Беларусь, а сталіца – Мінск". Цяпер я кажу „Менск", але гэта ўжо



Ангела Эспіноса Руіз

зусім іншая гісторыя). Нягледзячы на гэта, мовай я пачала цікавіцца даволі позна, калі пасьля выбараў 2010-га году я напісала невялічкі артыкул (http://belarusinfocus.info/upload/uploads1346834174.pdf), якім перамагла ў конкурсе „Беларусь у фокусе". Мяне запрасілі сюды, у Варшаву, на ўзнагароджаньне, і тады я ўпершыню пазнаёмілася зь беларускамоўнымі беларусамі (канкрэтна з журналістамі, якія таксама наведалі гэтае мерапрыемства). Маё спатканьне зь беларушчынаю было каханьнем зь першага погляду. Якая мэлядычнасьць! Якая прыгажосьць! Якія носьбіты прыемныя! Я адразу вырашыла вывучыць гэтую мову (хаця пачала трошкі пазьней), і ўжо падсьвядома ведала, што я хачу прысьвяціць сваё жыцьцё менавіта гэтай справе. Далей я пачала зьбіраць матэрыялы. У Гішпаніі іх вельмі мала (а дакладней ніякіх няма), таму надта доўга гэтым займалася. Амаль усё было па-руску, і таму была вымушаная вельмі добра вывучыць і яе, каб была магчымасьць вывучыць чарговую мову на ейнай аснове, разумееце? Шкада, напэўна, што шмат пазабывала, а цяпер зь мяне, калі па-руску, дык толькі трасянка, і зь цяжкасьцю. У выніку, пачала вывучаць беларускую мову толькі напрыканцы 2013 году – тры гады таму.

**Як выглядаў гэты працэс?**

– Мне вельмі й вельмі цяжка было вучыцца, калі пачынала. Не было з кім размаўляць – гадзінамі гаварыла зь люстэркам, каб пакрысе выпраўляць сваё жудаснае вымаўленьне (дзе ж я магла чуць жывую мову?). Днямі чытала творы клясыкаў літаратуры, у пачатку не разумеючы амаль нічога. Магла забывацца есьці, малавата спаць, не схадзіць у душ (фу!) некалькі дзён запар, калі перад носам была кніга Багдановіча, Купалы, Коласа, Караткевіча. Пачала сьпяваць па-беларуску, вы бачылі відэа, і пісаць-пісаць-пісаць... Так усё пачалося. Мяне заўважылі, я пачала друкавацца і працягвала пісаць вершы (і трохі прозы, і нават тэатральная п'еса ёсьць) на беларускай мове. Некаторыя людзі нават чытаюць гэтыя мае творы зь інтарэсам. Была прэзентацыя маёй кнігі („Раяль ля мора") у Менску.

**Адкуль у Вас такі выбар – вучыцца на беларусістыцы ў Варшаве?**

– Калі пачала нармальна валодаць беларускай мовай, я амаль адразу вырашыла пайсці на беларускую філалогію, калі скончу бакалаўр, і ў мяне было некалькі варыянтаў. Я грамадзянка Еўразвязу, і таму мне было нашмат прасьцей (і танней!) вучыцца ў Польшчы, чым у Беларусі. У Варшаве добрыя спецыялісты, і мне вельмі падабаецца жыцьцё тут.

**Што Вас больш за ўсё цікавіць на беларусістыцы?**

– У мяне літаратуразнаўчая спецыяльнасьць; я сама з малога пішу (пераважна паэзію, хаця ёсць таксама некалькі апавяданьняў і нават тэатральная п'еса па-беларуску), і таму адчуваю сябе больш свабодна ў гэтай галіне, але лінгвістычныя і чыста моўныя пытаньні таксама мяне цікавяць. Я дужа радая. што выбрала гэты шлях. Магістарскую працу буду пісаць у прафесара Хаўстовіча, пра творчасьць Міхася Стральцова (дакладную тэму яшчэ не вырашыла, бо я толькі на першым курсе магістратуры).

**Якія ў вас хобі і зацікаўленьні?**

– Мовы і літаратура – зразумела. Люблю вывучаць новыя мовы, чытаць творы ў арыгінале, перакладаць літаратуру, пісаць... Апроч за гэта вельмі люблю вандраваць, шпацыраваць (і пісаць на дварэ ці ў транспарце), глядзець фільмы і серыялы (у тым ліку анімэ, дарэчы), кампутарныя ігры. Яшчэ мушу сказаць, што музыка – істотная частка майго жыцьця. Я скончыла прафесійную музычную адукацыю яшчэ ў Малазе, іграю на піяніна, сьпяваю.

**Набліжаюцца Каляды і Новы Год. Як у Вас іх сьвяткуюць?**

– Каляды і Новы Год? У мяне ў Гішпаніі вельмі прыязная сям'я. Звычайна збіраемся ўсе, бабуля гатовіць вельмі смачныя сьвяточныя стравы (але неабавязкова 12, як у вас). Распавядаем розныя гісторыі, жарты, сьпяваем (родзічы па мячы сьпяваюць цудоўна амаль усе; па кудзелі – горш, мякка кажучы), гэта вельмі весела. Новы Год у нас – менш сямейнае сьвята – маладыя ходзяць на дыскатэкі з сябрамі пасьля вячэры, звычайна, хаця мы з родным братам (яму 17) і стрыечнымі братамі і сёстрамі

любім гуляць у лата з бабуляй да 4-ай ці 5-ай гадзіны. Сапраўднымі грашыма, вядома ж. Бабулька найлепшая! Пра сям'ю ўжо нешта ёсць у іншых адказах, але дадам крыху: у Малазе я жыву з бацькамі, бабуляй (мама маёй маці) і малодшым братам. Мая маці – настаўніца матэматыкі ў школе (5-6 клас, хаця раней працавала з дзецьмі зь дзіцячага садка). Мой бацька працуе ў буйнай страхавой кампаніі. Мая бабуля – сьвятая. Больш, чым другая маці. А мой брат – вельмі разумны хлапец; сканчвае якраз школу, будзе паступаць на фізыку-матэматыку. Бабуля заўсёды верыла ў мяне, і як быццам бы ведала, што ў мяне будзе ўсё выдатна, калі буду займацца ўлюбёнай справай. Бацькі ў пачатку не разумелі, што гэта за філялёгія, але цяпер падтрымліваюць мяне без пытаньняў і вельмі ганарацца. Брат, калі пафасна гаворыць, кажа, што я прыклад для яго. А калі не, дык зьдзекуецца трошкі, але падобраму. На тое ён і малодшы брат. Нягледзячы на розьніцу ва ўзросце, у нас з братам надзвычайна блізкія і прыязныя зносіны, бо маем шмат суполных інтарэсаў (я не пра філялягічныя, а пра тыя іншыя).

**Дзякую за размову і жадаю, каб захапленьне беларушчынай Вам акрыляла!**

– А я прапаную свае вершы.

**Ангела Эспіноса Руіз**

## Навальніца

Дзяцінства, восень, вечар, навальніца.
Я безь цябе, але я не адна;
Сакрэты раскрываюць мне жыцьця,
Фон Гётэ, гром, залева й бліскавіца.

Чытае Лотта ўслых мне твой адказ,
Няўзнакі час наіўнасьці міне,
Я ціха плачу, гнеўны вецер дзьме,
Баліць мне сэрца сёньня першы раз,

І юны Вертэр мне распавядае,
Што восень міласэрная даволі;
Нашмат цяжэй вясною паміраць.

Яго, я бачу, Лотта не кахае,
Як не кахацьмеш ты мяне ніколі.
Зіма настане – мушу я трываць.

## Дзьверы зачыняюцца

Паветра цяжэйшае на пустым месцы,
Дзе колісь ляжалі ружы
У памяць аб тых, хто сыйшоў
На пустым месцы.
Кветкі ніколі не павінны ляжаць
Пад зямлёю,
Без сьвятла, бяз будучыні,
Паміраючы заўчасна,
Нашмат раней, чым настане
Апошні ўздых.
Асьцярожна! Дзьверы зачынаюцца назаўжды.
Тыя, хто застаўся...
Тых разам з сухімі пялёсткамі падхопіць вецер,
Якога няма пад зямлёю,
Бо паветра цяжкім зрабілася.

***

Дождж, дождж першабытны
Ад самога пачатку часу, прасторы,
Мысьленьня.
Ламаецца ноч, як забытая лялька,
І дождж ідзе.
Абяцаю табе небыцьцё
Назаўжды. На пяць хвілінаў,
На дзьве гадзіны, на дваццатае стагодзьдзе.
Мімалётная вечнасьць. Дождж.
Не абяцай мне сонца,
Якога тут няма,
І сьвятла.
Раніца. Канец часу, прасторы,
Каханьня.
Яшчэ адну хвіліну...
Дождж, дождж апошні.
Быцьцё.

## Чарната

Мяне ніхто не навучыў, што робіцца,
Калі гнеўныя хмары плямяць неба,
І не відаць ні зоркі, ні планеты,
А на дварэ прахладна й самотна;
Калі дрымота захапляе галаву,
Імгла напаўняе сэрца,
І адказы зьмешваюцца з пытаньнямі;
Калі губляецца ціхі, кволы ранак,
І паміж намі нешта адначасова
Здараецца і не здараецца.
Засталося ўстаць з падлогі,
Сьціраць зь сябе старажытны пыл,
І прайсьці свой шлях да канца,
Хоць павольна, хоць у цемры.

## Герніка

Гэта было ў Мадрыдзе, а менавіта
У цэнтры мастацтва каралевы Сафіі

(Які мясцовыя жыхары называюць „Сафіду” –
Націск на „у”).
Малы хлопчык спалохаўся, калі ўбачыў
Велізарную карціну “Герніка” Пікассо
(Дарэчы, па-гішпанску чытаецца „Пікасса” –
Націск на „а”).
Малы спытаў маладую маму:
– Мама, што за карціна?
Мама падыйшла і зачытала,
– Называецца “Герніка”, даражэнькі. Падабаецца?
Хлопчык абурыўся, і адказаў,
ледзь стрымліваючы сьлёзы,
– Не! Брыдкая карціна, цёмная! Я баюся!
Чаму яна такая?
Мама паціснула плячыма,
– Ня ведаю, Пікассо заўжды быў дзіўным, сонейка.
І яны пайшлі далей.
Насамрэч, Пікассо намаляваў гэтую карціну
Не, каб упрыгожваць буржуазную гасьцёўню,
А каб людзі не забывалі пра вайну,
Што ў яго, на шчасьце ці на жаль,
Ня выйшла.

## Mourir pour des idées

Казаў мой дзядзька па мячы
(Хай яму зямля будзе пухам),
Што паміраць за ідэю можна й павольна.
Выглядае гэта так, нібы жывеш спакойна,
І нікуды не сьпяшаесься,
Як нармальная, адэкватная авечка,
А ідэя ўнутры цябе расьце,
І забівае цябе патроху,
Пяшчотна, салодка, але настойліва,
Як дасьведчаны каханак.
Так ня станеш волатам, відавочна,
Для шмат каго будзеш толькі крывадушнікам,
Але яны памруць раней за цябе,
А ідэя будзе жыць у тваёй галаве.

## Лістапад

Зіма, як белы павук
Апаноўвае вокны старажытнымі ўзорамі,
Вусны крывёю ды болем,
І сэрцы абыякавым холадам.
Які люты час лістападаўскі
Для закаханых!
Жарсьць ідзе спаць, і прачынаецца
Сьвядомая, разумная муза.
Лістападзе, ты – жнівень паэтаў!

## Восеньскі парк

Каханы: гібель ты мая, маё паветра
Я дыхаю табой, я дыхаю цябе
Я лісьце, што віхор твой восеньскі нясе
Каханы: гібель ты мая, маё паветра
Марозны твой уздых атрутаю заб’е
І буду крозай я, і буду шэптам ветру
Каханы: гібель ты мая, маё паветра
Я дыхаю табой, я дыхаю цябе.

## Сьнежань

Прачнуўся сьнежань, сьнег і не спазніўся
Мяне віхор халодны падхапіў,
Душа ўздымаецца без успамінаў,
Я вольная – гасанна на зямлі!
Сьнег падхапіў і грэх мой першародны,
Дзіўлюся ў захапленьні, як дзіця,
Я чыстая – гасанна на вышынях!
Бо сьнег жыве, а ты – ужо вада.

## Albus lepus

Паглядзеў на гадзіньнік раптоўна,
І, як вецер, уцёк ад мяне.
Ты пакінуў тады бестактоўна,
Без краіны й магічных дзьвярэй
І забылася я пра жыцьцё,
Пра ўкус горкае сьмерці-цукеркі,
А жаданае пекла тваё
Ужо зь іншага боку люстэрка.
Як прайсьці вечны нам калідор?
Як дайсьці да твайго мне вар’яцтва,
Калі мне замінае дакор,
А табе замінае грамадства?

***

Далёкае места плавае
У моры цёмнага піва.
Нам – ноч,
Птушкам – ніву.
Далёкае места плавае
У моры замежных моў.
Нам – каханьне,
Птушкам – кроў.
Далёкае места плавае
У моры разьбітага шкла.
Птушкам – неба,
Нам – віна.

■

# «Сярожа»

## *дакументальны фільм, рэж. Юры Каліна*



У біяграфіі героя фільма, Сяргея Нічыпарука, жыхара вёскі Буды ў Белавежскай пушчы, адлюстраваны лёс беларускай праваслаўнай меншасці, якая жыве ва ўсходняй частцы Падляшскага ваяводства. Як і вялікая частка ягоных крэўных, Сяргей паходзіць з невялікай беднай вёскі, ягоныя продкі стагоддзямі займаліся працай на раллі, маліліся ў праваслаўнай царкве, са страхам у вачах прымалі кожную змену ўлады, але ў той жа час намагаліся спадабацца новым уладам і прыстасавацца да новых варункаў. «Цішэй едзеш – далей будзеш», – вучыў бацька сына з поўнай упэўненасцю ў правільнасці гэтай максімы.

Але ці сапраўды герой фільма такі самы, як і большаць ягоных родных? Ці, можа, ён быў у авангардзе зменаў, якія прыходзілі ў Падляшскае ваяводства з «вялікага польскага свету»? Гэтыя пытанні ставіць сабе журналіст Польскага Падыё Беласток Яраслаў Іванюк, які вырашыў стварыць дакументальную радыёпраграму пра Сяргея Нічыпарука. Здымачная група суправаджала яго падчас запісу.





Сяргей Нічыпарук і ягоная сям'я трымае агратурыстычны пансіянат у вёсцы Буды ў Белавежскай пушчы. Некалькі дамоў з пакоямі для гасцей, руская лазня, карчма паляўнічага, этнаграфічныя экспанаты, усё агароджанае традыцыйным падляшскім плотам з жывой вярбы – тынам. Найвялікшы гонар гаспадароў – адрамантаваная хата, пабудаваная ў 1887 годзе, з арыгінальным дэкорам з той эпохі.

Ранейшыя этапы жыцця Сяргея не былі такімі ідылічнымі. Ён нарадзіўся ў вёсцы Заляшаны, якая ў 1946 г. зведала пацыфікацыю з боку Спецыяльнага аддзелу хуткага рэагавання польскага Нацыянальнага вайсковага задзіночання пад камандаваннем капітана Рамуальда Райса па мянушцы «Буры». Падчас гэтай акцыі загінула 17 вяскоўцаў, у тым вялікая частка сям'і Сяргея Нічыпарука. У маладосці ён паверыў прапагандзе «народнай улады» і зрабіўся ідэйным камуністам. Ідэалагічная змена надышла ў сярэдзіне 1970-х. Наш герой зразумеў, што камунізм гэта – «хлусня і падман», выкінуў партбілет... і пачаў вучобу ў Праваслаўнай духоўнай семінарыі ў Варшаве. У 1981 г. ён узначаліў суполку «Салідарнасці індывідуальных фермераў» у Дубічах-Царкоўных. Гэта была адзіная вясковая гміна з праваслаўным насельніцтвам, у якой паўстала суполка «Салідарнасці». Сяргей Нічыпарук зрабіўся прыватным прадпрымальнікам, больш за 30 гадоў ён будуе драўляныя дамы, корчмы, гаспадарчыя будынкі і цэрквы.

Ён дапамог пабудаваць манастырскі дом св. Кацярыны ў Заляшанах, у якім ягоная дачка – праваслаўная манашка сястра Елізавета – моліцца за спачын душ жыхароў вёскі, забітых у 1946 г.



*фота Норбэрт Скутнік*



Прэм'ера ў тэлебачанні «Белсат ТВ»
**10 студзеня 2016 г. у 16.00**
Спэцыяльны паказ у кінатэатры «Форум» у Беластоку
**26 студзеня 2016 г. у 18.00**
Пасля паказу дыскусія з удзелам героя фільма Сяргея Нічыпарука і усімі зацікаўленымі

*«Сярожа», дак. фільм, рэж. Юры Каліна, працягласць 47 хв., «Белсат», 2015*



# Календарыюм

## Студзень – гадоў таму

**135** – 15.01.1881 г. у Дабромілі (цяпер Львоўская вобл., пры мяжы з Польшчай) нар. Тадэвуш Станіслаў Грабоўскі (пам. 22.01.1975 г. у Кракаве), польскі слявіст, дасьледчык, прафесар Ягелёнскага Унівэрсытэта, дыплямат. У сваіх навуковых працах сьцвярджаў самабытнасьць беларускага народу, культуры і мовы. Аўтар м.інш.: «Rosyjskie rządy na Białej Rusi” (Piotrków Trybunalski 1916), „Z pogranicza polsko-białoruskiego” (w: „Księga pamiątkowa ku czci Stanisława Pigonia” (Kraków 1961, s. 445-454). У «Ніве» пісаў пра яго Мацей Канапацкі, які з ім вёў асабістую перапіску. *Чыт. на наступнай старонцы.*

**125** – 20.01.1891 г. у вёсцы Дуляўцы Ваўкавыска пав. нарадзіўся Фабіян Ярэміч, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, публіцыст. Скончыў электратэхнічную школу ў Пецярбурзе. У 1917 г. далучыўся да беларускага руху. У 1922 г. стаў дэпутатам польскага Сойма. Быў выбіраны паслом яшчэ ў выбарах у 1928 г. і 1930 г. Адзін з кіраўнікоў Беларускага Сялянскага Саюза, выдавец „Сялянскай нівы”. Пасьля Другой сусьветнай вайны арыштаваны саветамі. У 1956 г. вызвалены з лагеру. Жыў у Павільні. Памёр 29.06.1958 г., пахаваны на павільнюскіх могілках.

**125** – У 1891 г. у кракаўскай друкарні Уладзіслава Анчыца выйшаў зборнік вершаў Францішка Багушэвіча (Мацея Бурачка) „Дудка беларуская”.

**115** – 12.01.1901 г. у Пшчэльнай каля Гайсына на Падольлі нар. Антаніна Абрэмбская-Яблоньская, польская мовазнаўца, адна з арганізатараў беларускай філялёгіі Варшаўскага Унівэрсытэту. Вяла дасьледаваньні па беларускіх гаворках Беласточчыны. Памерла 19.11.1994 г. у Варшаве.

**110** – 22.01.1906 г. у Менску нар. Андрэй Александровіч, беларускі пісьменьнік, адзін з арганізатараў літаратурнага аб’яднаньня „Маладняк”. Закончыў Менскі Пэдагагічны Тэхнікум (1925) і БДУ (1930), першы верш апублікаваў у 1921 г.; у 1938 г. арыштаваны і сасланы на поўнач, працаваў пры пабудове нарыльскага мэталюргічнага камбіната (1938-1947), у 1947 г. вярнуўся у Менск, у 1949 г. паўторна арыштаваны і сасланы ў Краснаярскі край (да 1955 г.), пазьней жыў у Менску; аўтар зборнікаў вершаў, м. ін.: „Па беларускім бруку” (1925), „Фабрыка сьмерці” (1929), „Узброеныя песні” (1936), „Галубінае крыло” (1976). Памёр 6.01.1963 г. у Менску.

**100** – 14.01.1916 г. у засьценку Абружын на Гродзеншчыне нар. кс. Уладзіслаў Чарняўскі, заўзяты змагар за беларускую мову ў каталіцкім касьцёле, беларускі патрыёт. Закончыў гімназію пры кляштары айцоў марыянаў у Друі (1937), з 1938 г. – у ордэне марыянаў, вучыўся ў каталіцкай сэмінарыі ў Вільні, пасьвячоны ў сьвятары ў 1953 (?) г., служыў у парахвіі Вішнева, дзе і памёр 18.12.2001 г.

**95** – 17.01.1921 г. у Сеньне каля Оршы пам. кс. Аляксандр Астрамовіч (нар. 26.11.1878 г. у Навасядах на Ашмяншчыне), адзін з пачынальнікаў беларускага хадэцкага руху і прапаведнікаў у касьцёле на беларускай мове, паэт (Андрэй Зязюля). Закончыў духоўную сэмінарыю ў Пецярбурзе, высьвячаны на ксяндза ў 1910 г., служыў у Ракаве (1911), Аннопалі (1912), Бабруйску (1915), Сьмілавічах, Лунінцы, Осе, Рубяжэвічах (1916), Жарноўцы, Абольцах (1917), з 1919 г. у Сеньне. З 1909 г. друкаваўся ў беларускім друку („Наша Ніва”, „Biełarus”, „Śvietač”, „Krynica”), аўтар зборніка вершаў „Z rodnaha zahonu” (1913, 1931), аўтар рэлігійнага гімна „Божа, што каліс народы...”.

**95** – 30.01.1921 нар. Іван Шамякін, пісьменьнік, грамадзкі дзеяч. Друкуецца з 1942 г. Аўтар апавяданьняў, аповесьцяў, п’есаў, публіцыстыкі. Памёр у Менску 14.10. 2004 г.

**90** – 15.01.1926 г. у Вільні выйшаў з друку першы нумар ілюстраванага сатырычнага часопіса „Маланка”. Выходзіў раз у два тыдні. Выдаваўся да 26 сьнежня 1928 г., выйшлі 43 нумары.

**90** – 29.01.1926 г. нар. у Вільні Мацей Канапацкі, публіцыст „Нівы”, рэдактар беларускіх перадач у Польскім радыё. *Віншуем з юбілеем!*
**90** – 22.01.1926 г. у Белавушы на Століншчыне нар. іерарх БАПЦ (Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы) Ізяслаў (Іван Бруцкі), з 1947 г. у Канадзе (з 1957 г. – старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады), з 1962 г. – У ЗША (з 1959 г. у Кліўлендзе), у 1979 г. рукапаложаны ў сан сьвятара БАПЦ, з 1981 г. – епіскап БАПЦ. Памёр 26.11.2007 г., пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку ў штаце Нью-Джэрзі.
**80** – 15.01.1936 г. У Зубрэвічах Аршанскага раёну нар. Янка Сіпакоў, пісьменьнік, аўтар апавяданьняў, аповесьцяў, перакладаў. Памёр 10.03.2011 г. у Менску.
**75** – 12.01.1941 г. у Сьвярдлоўску нар. Уладзімір Мулявін, кампазітар, артыст эстрады, стваралькік і кіраўнік ансамбля „Песьняры”. Памёр 26.01.2003 г. у Маскве ад ран панесеных у аўтамабільным здарэньні. Пахавны на Усходніх могілках у Менску.
**70** – 2.01.1946 г. памёр ад катаваньняў у Бутырскай турме ў Маскве кс. Фабіян Абрантовіч (нар. 14.09.1884 г. у засьценку Вераскоўшчына на Навааградчыне), адзін з пачынальнікаў беларускага хадэцкага руху, змагар за беларусізацыю каталіцкага касьцёла. Закончыў духоўную сэмінарыю і духоўную каталіцкую акадэмію ў Пецярбурзе, высьвячаны на ксяндза ў 1909 г., выкладаў Закон Божы ў Пецярбургу, у 1912-1914 гг. студыяваў у каталіцкім унівэрсытэце ў Лювэне ў Бэльгіі, абараніў там доктарскую дысэртацыю, з 1914 г. прафэсар духоўнай сэмінарыі ў Пецярбурзе, з 1918 г. у Менску – актыўна ўключыўся ў беларускі нацыянальны і хадэцкі рух, з 1926 г. выкладаў у духоўнай сэмінарыі ў Пінску, пазьней быў у ордэне марыянаў у Друі, у 1929-1938 гг. узначаліў каталіцкую місію ўсходняга абраду ў Маньчжурыі і ў Кітаі, пасьля вяртаньня ў 1939 г. арыштаваны саветамі.
**70** – 16.01.1946 г. у Лёндане адбыўся зьезд былых беларускіх вайскоўцаў, на якім было заснавана Згуртаваньне Беларусаў Вялікабрытаніі. Першы старшыня – Вінцэнт Жук-Грышкевіч.
**70 –** у студзені 1946 г. у Мюнхене выйшаў першы нумар часопіса Згуртаваньня Беларускіх Студэнтаў „Крывіцкі сьветач”.
**65 –** у студзені 1951 г. у Нью-Ёрку быў апублікаваны першы нумар навуковага часопіса Крывіцкага Навуковага Таварыства імя Францішка Скарыны „Веда”. Рэдагаваў Янка Станкевіч.
**50** – 30.01.1966 г. у Таронта быў створаны Каардыныцыйны Камітэт Беларусаў Канады.
**30** – 19.01.1986 г. у беларускім тыднёвіку ў Польшчы „Ніва” быў надрукаваны першы нумар студэнцкай старонкі „Прысутнасьць”.
**30** – 24.01.1986 г. у Варшаве адбыўся Першы баль беларускага студэнта.
**25** – 20.01.1991 у Беластоку адбылася сустрэча прадстаўнікоў Беларускага Дэмакратычнага Аб’яднаньня, Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства, Беларускага Аб’яднаньня Студэнтаў, Беларускага Літаратурнага Аб’яднаньня „Белавежа” і Грамадзкага Камітэта Пабудовы Беларускага Музэя ў Гайнаўцы, на якім упершыню быў прастаўлены праект заснаваньня ў Беластоку Цэнтра Беларускай Культуры.

*Апрацавалі* **Лена Глагоўская** і **Вячаслаў Харужы**

***Калісь пісалі***

# *Плённыя кантакты журналіста з прафесарам*

***1.*** **Два студзеньскія круглыя юбілеі двух выдатных для беларускай культуры асобаў, пра якіх хацелася б чытачам успомніць. Крыху прызабытыя ў сучаснай глябальнай мітусьні... А так склалася, што Мацей Канапацкі, «Ніўскі сьледапыт», як назваў яго даўні галоўны рэдактар тыднёвіка Юры Валкавыцкі, у пачатку 60-ых гадоў XX стагодзьдзя, пісаў у «Ніве» пра прафесара Тадэвуша Станіслава Грабоўскага, выдатнага слявіста, якому неабыякавае было польска-беларускае памежжа. Пры тым быў з ім асабіста знаёмы, сустракаўся і ліставаўся. У хатнім архіве Мацея Канапацкага знайшлося каля дзясятка лістоў ад прафесара. Яны вельмі добра дапаўняюць «ніўскія» артыкулы Мацея Канапацкага і прыбліжаюць постаць выдатнага славіста. Прапануем іх чытачам у такой форме, як яны запісаныя. Большасьць з іх напісана на машынцы апрача паштовак і апошняга ліста, якія напісаныя адручна.**

**Лена Глагоўская**

1.

Prof. Tad. Stan. Grabowski
Al. Słowackiego 56, m. 15
L.cz.86/III/62 Kraków, dn. 21 marca 1962.

Szanowny Panie Magistrze,
Bardzo przepraszam, że dałem Panu cały miesiąc pra-

wie czekać na Pański tak miły list z 28-go ub. mies. oraz za przesłane mi uprzejmie nry „Naszej Niwy" (powinno być: „Niwy" – przyp. H. G.) z pańskimi artykułami. Przesyłka nadeszła w okresie dla mnie najcięższym, kiedy oboje z żoną pochorowaliśmy się i normalne życie „wzięło w łeb", a zaległości gromadziły się z dnia na dzień, zwłaszcza, że to druga połowa marca, a do kwietnia muszą być dla Uniwersytetu i oddz.[iału] naszego P.A.N. pokończone wszystkie roboty, planowane na ten rok szkolny i wydawniczy.

Toteż nie miałem nawet możności przestudiować należycie nrów „N. N" („Niwy" – przyp. H. G.) poza oczywiście tylko ostatnim pańskim artykułem o rozmowach z potomkami Franciszka Bohuszewicza, który mię od dawna żywo interesował. Mimo licznych pilnych zajęć połknąłem Pański wywiad na gorąco i bardzo jestem wdzięczny za wszystkie informacje. Jaka to szkoda, żeśmy się nie poznali podczas pobytu mego w Białymstoku. Byłbym był wtedy daleko więcej skorzystał z zetknięcia się z Panem oraz red.[akcją] „Naszej Niwy" („Niwy" – przp. H. G.), aniżeli z całego Zjazdu Ludoznawczego i wycieczki do Białowieży. Bohuszewiczem interesowałem się od dawna i trochę wykładałem o nim na kursach literatury białoruskiej w pierwszych latach po objęciu katedry w Krakowie, brak jednak oryginalnych jego dzieł i braku odpowiedzi na moje prośby i zapytania z Mińska zniechęciły mię do reszty.

Zająłem się wtedy pomniejszymi, ale dostępniejszymi pisarzami białorusko-polskimi, do historii działalności ich na terenie Polski, Litwy i Białorusi można tu było znaleźć znacznie więcej materiałów. Z tego zrodziły się moje studia z „Pogranicza polsko-białoruskiego", których drobną cząstkę mogłem umieścić w Księdze Pamiątkowej ku czci prof. Pigonia. Życzenie Pańskie spełniam, przesyłając w załączniku nadbitkę z pierwszej części pracy. Kiedy zdołam wydać całość, Bóg raczy wiedzieć, gdyż obecny okres 600-lecia U.J. i 1000-lecia Polski nie bardzo tego typu pracom sprzyja, zmuszony więc jestem inne rzeczy pchnąć naprzód.

Na przyjazd Pański bardzo się cieszę. Pogadamy wtedy obszernie o naszych wspólnych zainteresowaniach i ew.[entualnie] – o ile mi wiek i zdrowie dopiszą – o jakiejś współpracy. W każdym razie proszę pamiętać, że kwiecień cały zapełniony będzie gorączkową pracą terminową i trudno byłoby mi poświęcić dużo czasu na nasze sprawy, zwłaszcza że obarczono mię na pożegnanie z U.J. przewodnictwem Komisją Słowianoznawczą Krak[owskiego] Oddz.[iału] P.A.N., co zabiera sporo czasu na posiedzenia, sprawozdania, planowania etc. Czeka mię też ciężka przeprawa o wydanie „Bibliografii Słowianoznawstwa Polskiego" (kontynuacja B.S.P. Edmunda Kołodziejczyka z czasów b.[yłej] Pol.[skiej] Ak.[ademii] Um.[iejętności]), gdzie oczywiście uwzględniona będzie i Białoruś w czasopiśmiennictwie polskim za 10-lecie, od 1908-1918.

Chciałem napisać do Pana tylko parę słów z serdecznym podziękowaniem za miłą przesyłkę i ciekawe artykuły Pańskie, tymczasem rozpisałem się, jak stary gaduła, nad różnymi sprawami, które mi spać nie dają po nocy. Chyba dla ulżenia sobie, a zabrania Panu pewnie również drogiego czasu.

W każdym razie przyjazd Pański w cieplejszej porze do Krakowa pożądany. Spieszyć się jednak na razie nie radzę, gdyż fatalny klimat krakowski i sroga tegoroczna zima przeciąga się jeszcze, nie nadając się bardzo na wojaże w dość prymitywnych naszych warunkach.

Dziękując raz jeszcze za cenną przesyłkę i list uprzejmy, zasyłam nawzajem, czym chata bogata, z serdecznymi pozdrowieniami i wyrazami szacunku

*Tad. Stan. Grabowski*



Фота з архіва „Нівы"

**Мацей Канапацкі**



Фота з Вікіпедыі

**Праф. Тадэвуш Грабоўскі**

1 zał.

## *Праф. Станіслаў Грабоўскі аб польска-беларускіх узаемаадносінах*

Праф. др Тадэуша Станіслава Грабоўскага, які ўзначальвае зараз кракаўскую славістыку, ведаем як энтузіяста творчасці беларускіх песняроў і добрага знаўцу польска-беларускіх літаратурных сувязей. Яшчэ ў гады першай сусветнай вайны ў 1915 г. у Пятркове, выступіў ён з цікавым дакладам аб беларускім літаратурным руху. У 1916 г. гэты даклад з'явіўся ў друку аддзельным сшыткам і зараз з'яўляецца бібліяграфічнай рэдкасцю.

Да пяцідзесяцігоддзя навуковай дзейнасці выдатнага польскага філолага Станіслава Пігання выйшла ў выданні Кракаўскага аддзялення Польскай Акадэміі навук спецыяльная «Памятная кніга» ў гонар юбіляра. Тут друкуюць свае артыкулы і публікацыі вядомыя вучоныя Народнай Польшчы. Сярод аўтараў, выступіўшых у гэтай каштоўнай працы, сустракаем таксама і праф. др Станіслава Грабоўскага. Ён абмяркоўвае 40-ыя і 50-тыя гады XIX ст. у гісторыі польска-беларускага літаратурнага збліжэння. Аўтар у сваім нарысе, азагалоўленым «З польска-беларускага пагранічча», абапіраецца на параўнальна багатым дакументальным матэрыяле, пачэрпнутым з польскіх і беларускіх крыніц. Мабыць факт, што некаторыя з іх ужо значна ўстарэлі аказаў пэўны ўплыў на традыцыйнасць у ацэнцы праф. Грабоўскім літаратурнай дзейнасці паасобных пісьменнікаў. Не ўступаючы зараз у спрэчкі з поглядамі вучонага, адзначу, што, у асноўным яго погляды ўносяць, належны ўклад у вывучэнне хвалюючага нас пытання. Асаблівае зацікаўленне павінны выклікаць думкі даследчыка, які дае характарыстыку польскага часопіса «Рубон» (1843-1949) Казімежа Буйніцкага. Згуртаваныя вакол «Рубона» літаратары і публіцысты, а перш за ўсё К. Буйніцкі, адыгралі значную ролю ў вывучэнні і папулярызацыі беларускай вусна-паэтычнай творчасці, у пашырэнні асветы і ўзняцці эканамічнага жыцця на беларускіх землях. Нашую ўвагу звяртае праф. Грабоўскі на ролю часопіса, як сур'ёзнага фактара, спрыяючага збліжэнню і лепшаму зразуменню паміж польскім і беларускім грамадствамі ў палове мінулага стагоддзя. Сярод людзей, супрацуючых з «Рубонам», ці проста спрыяючым яго дзейнасці прыгадвае польскі вучоны прозвішча выдатнага пісьменніка І. Крашэўскага. У зборах рукапісаў Ягелонскай бібліятэкі захавалася яго перапіска з 1840-1843 г.г., якая з'яўляецца наглядным сведчаннем шматлікіх спробаў з боку т. зв. «крэсовых» літаратараў наладзіць больш трывалую сувязь з пісьменнікам. Дарэчы, праф. Грабоўскі публікуе на старонках нарыса фотакопію пісьма Яна Баршчэўскага да І. Крашэўскага, а таксама рэпрадукцыю здымка яго аўтара, пачэрпнутага з «Нашай нівы». Паасобныя гадавікі гэтага беларускага часопіса, як вядома, захоўваюцца ў Ягелонскай бібліятэцы. Дык маем у нарысе праф. Грабоўскага багаты пералік прозвішчаў «крэсовых» літаратараў, якія пісалі на беларускай мове, або пішучы на польскай чэрпалі матывы і сюжэты з беларускага фальклору, ці проста збіралі і выдавалі асобнымі зборнікамі народныя песні і легенды. Вось некаторыя з гэтых літаратараў: Міхал Грабоўскі, Ян Чачот, Аляксандр Гроза, Юльян Гжымалоўскі, Міхал Борх, Людвік Штырмер, Ігнацы Храпавіцкі. Апошні з прыгаданых варты асаблівай увагі таму, што з'яўляецца аўтарам каштоўнага даследу аб беларускім фальклоры п. з. «Rzut oka na poezje ludu białoruskiego», змешчанага ў V томе «Рубона» (Вільня, 1845 г.).

Гаворачы аб Яне Баршчэўскім, як аўтары чатырохтомнай аповесці п.з. «Шляхціц Завальня...» і выдаўцы «Незабудкі» (1840-1844 г.г.), праф. Грабоўскі адзначае, што да яго прымыкалі такія літаратары, як Рамуальд Падбярэзкі і Рамуальд Зямкевіч – вядомы збіральнік беларускага фальклору на Палессі. На заканчэнне свайго нарыса польскі вучоны імкнецца вызначыць паасобныя этапы ў развіцці польска-беларускага збліжэння. Першы этап згодна з меркаваннямі даследчыка прыпадае на гады дзейнасці літаратараў, класічным прадстаўніком якіх быў Я. Баршчэўскі. Праф. Грабоўскі бачыць тут яшчэ толькі спробы, першыя зрухі ў вывучэнні багатай вусна-паэтычнай творчасці беларусаў, бачыць пакуль што павярхоўную трактоўку цэлага пытання без нейкага плана ці сістэмы. Другі этап супадае з выступленнем Казіміра Буйніцкага. Яго і яму падобных заслуга перш за ўсё ў кшталтаванні прывязанасці да гістарычнай спадчыны беларускіх зямель, да ўзнімання асветы і наогул культурнага ўзроўню людзей, засяляючых гэтую тэрыторыю. І ўрэшце трэці этап, якога вызначае буйная і шматгранная дзейнасць польскага вучонага Міхала Федароўскага – чалавека з глыбокімі ведамі, дасканалага знаўцы беларускага фальклору і яго сур'ёзнага даследчыка.

Праф. Станіслаў Грабоўскі спрабуе абагуліць усё сказанае ў сваім нарысе. Ён, менавіта, адзначае вялікую ролю літаратараў, згуртаваных вакол «Незабудкі» і «Рубона» як людзей, якія сваёй дзейнасцю стварылі спрыяльны грунт для паўстання т. зв. «беларускай школы». Аднак найлепш будзе, калі аддамо голас аўтару нарыса. Маючы перад вачыма выказванне даследчыка, зможам самі ацаніць правільнасць яго думак.

«Усе яны (пісьменнікі «Незабудкі» і «Рубона» – заўвага мая), маючы за сабою падмацаванне з боку правінцыянальных літаратараў на тэрыторыі Інфлянтаў, Літвы і Беларусі, на працягу паўстагоддзя рабілі намаганні, каб і гэтыя паўночна-ўсходнія ўскраіны вырваць з забыцця і маразму, ажывіць іх творчым духам не толькі на літаратурнай ніве, але таксама ў грамадскім і эканамічным жыцці. А чэрпаючы з багатага капіталу бела-

рускай народнай песні і гістарычных традыцый гэтых зямель, хацелі садзейнічаць адначасова асабістаму духоўнаму развіццю і эканамічнаму прагрэсу краіны, а разам з тым і ўзняць свайго роду шчыт супроць русіфікатарскай палітыкі царскага дэспатызму. Па гэтых прычынах і на такіх асновах дзейнасці вырасла вось гэтая група забытых ужо сёння пісьменнікаў і грамадскіх дзеячоў, якіх справядліва залічае В. Р. Вегняровіч да «беларускай школы».

Адзначу тут, што В. Р. Вегняровіч з’яўляецца аўтарам сур’ёзнага і навукова абгрунтаванага нарыса аб беларускай літаратуры п.з. «Маладая Беларусь», змешчанага ў кракаўскім часопісе «Свят славянскі» ў 1912 годзе.

Праф. Станіслаў Грабоўскі ў канцы свайго выступлення на старонках «Памятнай кнігі» паведамляе, што з падрабязным аналізам творчасці групы пісьменнікаў, складаючых «беларускую школу», чытач пазнаёміцца ў аддзельнай манаграфіі, якая зараз падрыхтоўваецца вучоным.

Ад шчырага сэрца трэба вітаць выхад такога выдання. Яно ж павінна значна папоўніць набытак польскага літаратуразнаўства ў гэтай галіне. Справа тут асабліва ў тым, што праф. Станіслаў Грабоўскі бярэцца за мала яшчэ вывучаны перыяд у гісторыі сувязей паміж нашымі славянскімі літаратурамі. А польскія бібліятэкі залягаюць накшталт багатых пакладаў выкапняў проста невычэрпныя крыніцы, адлюстроўваючыя гэтае пытанне.

**Мацей Канапацкі**

*«Ніва», № 12, 25.03.1962 г., с. 3-4*

***Пошукі і знаходкі***

# *Невядомая казка Гальяша Леўчыка*

**Беларускі паэт, перакладчык, грамадскі актывіст, калекцыянер, музыкант і мастак Гальяш Леўчык (1880-1944) спрабаваў нават пісаць казкі. Адну такую „Зімовую казку” ўдалося адшукаць на старонках слонімскага польскамоўнага выдання „Gazeta Słonimska” за 1938 год. У першым яе нумары на другой старонцы пад крыптанімам EL і была апублікавана „Зімовая казка”. Што менавіта напісаў яе Гальяш Леўчык – сумненняў на сто працэнтаў няма. Па-першае, Гальяш Леўчык у 1920-х—1930-х гадах на старонках заходнебеларускага друку вельмі часта карыстаўся крыптанімамі: Г.Л., Л-к, Га-Ле, Л., H.L, E.L, L. Па-другое, хоць Гальяш Леўчык пісаў заўсёды па-беларуску, на просьбу свайго сябра-слонімца паэта Сяргея Новіка-Пеюна ён хутка адгукнуўся. Справа ў тым, у 1938 годзе ў Слоніме Сяргей Новік-Пяюн зарэгістраваў на імя сваёй жонкі Людмілы Новік польскамоўную „Gazetu Słonimsku” (на беларускай мове палякі не дазвалялі). І тады ён рыхтаваў першы нумар, таму прасіў сваіх знаёмых і сяброў напісаць для яе артыкулы. Звярнуўся ён і да Гальяша Леўчыка. Шчыры і сумленны Гальяш Леўчык не мог адмовіць сябру і выканаў яго просьбу. Ён напісаў спецыяльна для газеты ў першы зімовы нумар сваю „Зімовую казку” на польскай мове. Яе падпісаў крыптанімам EL.**

**Невядомы раней твор Гальяша Леўчыка прапаную чытачам „ЛіМа”. „Зімовую казку” Гальяша Леўчыка на беларускую мову пераклаў Віталь Луба.**

**Сяргей Чыгрын**

## *Зімовая казка*

У белым доміку жыла малая дзяўчынка. Называлі яе Ірынка. Валасы былі ў яе цёмныя і бліскучыя, а вочы такія сінія, быццам неба вясною.

Калі раніцай засвяціла сонейка, у пакой Ірынкі залящелі яго ясныя прамяні і разбудзілі яе. А тады са срэбранага агарода, зачараванага на замёрзлых шыбах, да Ірынкі прыплывала залатая каралева Радасць.

Сядала побач каля яе на ложачку і белай ручкай песціла тварык Ірынкі.

Расказвала ёй каралева Радасць, як цудоўна на свеце. Паказвала ёй сад, спавіты белам снегам, як пераліваецца ў сонцы мільёнамі іскрынак, як белая пуховая гронка ціха падае на дробныя кусцікі, а ўсё так блішчыць беллю, што сэрца радуецца і прарываецца да жыцця.

А вочы ў Ірынкі блішчалі як зоркі. Ускоквала з ложачка і бегла за каралевай Радасць прывітаць дзень. Тут жа прыбег да Ірынкі малы белы эльф Смех і ўвесь дзень не адыходзіў ад яе. А калі, урэшце, сонейка хілілася да захаду, а неба станавілася ўсё больш цёмным, Ірынка лягла спаць. Тады з далёкіх зорак сплывала да яе ложачка варажбітка Даверлівасць. Апранутая ў срэбную сукню, сядала каля Ірынкі і соладка спявала для яе калыханкі. Ірынка, слухаючы песні варажбіткі Даверлівасці, ціхенька засынала.

Ірынка часта брала сваю гітару і іграла. Сіні Змрок

ахінаў сваім далікатным плашчом снег, супакойваў гучнае цвырканне вераб’ёў і ціха падкрадаўся да вакон. З-пад пальчыкаў Ірынкі плыла цудоўная мелодыя. Тады прыходзіла да Ірынкі каралева Казка, ахінала яе сваім зорным плашчом і вяла ў сваю Казачную краіну.

Аднойчы Ірынка іграла на змярканні, а ў акно зазіраў цікаўны месяц.

Каралеўна Казка шаптала ёй дзівосы. Ірынка іграла, слухаючы Казку. І тады па сярэбранай стужцы месяца да Ірынкі сплыла спакойная прынцэса Мара. Мяккімі рукамі абняла шыю Ірынкі і павяла яе па месячнай стужцы, павяла да зорак у сінюю даль. Паказала ёй свой свет і Ірынка палюбіла прынцэсу Мару.

Затуманіліся ад смутку вочы каралевы Казкі. Ірынка неахвотна ішла ў яе краіну, больш любіла краіну прынцэсы Мары. Бліснулі зоркі на плашчы каралевы Казкі. Казка знікла. Цяпер, калі Ірынка брала гітару і іграла, пры ёй была прынцэса Мара.

Аднойчы з’явіўся Ён. Прыйшоў аднекуль здалёк... Вочы яго глядзелі на Ірынку, ягоныя вусны смяяліся да яе. Ён прасіў, каб Ірынка яму іграла. І яна іграла. З-пад яе пальчыкаў паплыла цудоўная мелодыя, такая, якой ніколі дагэтуль Ірынка не іграла.

Здзівілася прынцэса Мара, здзівіўся блакітны эльф Спакой, бо ніколі не чулі падобнай мелодыі. Спакой страсянуў залатымі крыламі і хутка адляцеў. А Ірынка іграла. На гукі гэтай мелодыі прачнулася каралева Любоў. Прыйшла ціха, сярэбраным шалем ахінула постаць Ірынкі. А раніцай каралева Радасць не магла разбудзіць Ірынку. Адышла тады засмучаная, забіраючы свае залатыя бліскі. Але шкада ёй было Ірынкі. Паслала тады да яе свайго брата князя Шчасце. І калі прамяністы князь Шчасце зайграў на флейце, Ірынка расплюшчыла вочы і прывітала дзень.

Але аднойчы Ён не прыйшоў. Кудысьці з’ехаў. Доўга іграла Ірынка на сваёй гітары! З-пад яе пальчыкаў плыла сумная мелодыя, быццам скарга, быццам плач. І з гукаў гэтай мелодыі ўсплыў маленькі шэры Смутак. А Ірынка іграла. Прынцэса Мара дарэмна клікала яе ў сваю краіну. Знікла тады. Ірынка засталася адна. Смутак узрастаў, станавіўся штораз больш магутным.



Архіўнае фота

**Гальяш Леўчык у апошнія гады свайго жыцця. Варшава**

Шэрымі крыламі ахінуў ён Ірынку. Затуманіліся ясныя вочы Ірынкі і, як бурштынкі, пакаціліся слёзкі. А гітара ўвесь час гучала. Струны плакалі разам з Ірынкай і скардзіліся...

І тады з цёмнай снежнай далі вынырнула постаць прынцэсы Тугі.

Ішла яна памаленьку, але з упэўненасцю. Была ўжо побач з Ірынкай, узяла яе за руку і павяла ў змрочную даль. Там не было дзівосаў і цудаў, як у краіне каралевы Казкі, ані бліскучых зорак, як у краіне прынцэсы Мары. У краіне прынцэсы Тугі панавалі змрок і цемрадзь, стаяла халодная імгла...

Раніцай, калі сонейка запальвала на снезе тысячы іскрынак, Ірынку ўжо не разбуджваў князь Шчасце. Пабачыўшы слёзы, адляцеў ён хутка і беспаваротна.

Вечарам Ірынку не ўсыплялі ўжо песенькі варажбіткі Даверлівасці. Пры яе былі цяпер імглістая прынцэса Туга і шэры эльф Смутак.

З абодвух бакоў акружылі яны Ірынку і гаварылі ёй кожны сваю казку.

А казкі гэтыя былі шэрыя і сумныя. І Ірынка плакала, плакала... А разам з ёю рыдалі і скардзіліся сярэбраныя струны гітары...

**Гальяш Леўчык,**
*1938 г.* ■

# *Konstanty Kalinowski (Kastuś Kalinoŭski) w świadomości Białorusinów w Polsce*

***2.*** Po II wojnie światowej w zmienionych granicach Białorusini pozostali w Polsce, w tym na swych etnicznych ziemiach na Białostocczyźnie, do 1956 r. nie mieli możliwości prowadzenia działalności społecznej i wydawniczej. Dopiero powstanie Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego i tygodnika białoruskiego „Niva” stworzyło szanse na tego rodzaju aktywność. W odrodzonej działalności poszukiwano wzorców do naśladowania, nawiązywano do tradycji historycznej. W 1957 r. w „Nivie” ukazał się artykuł ówczesnego nauczyciela w Siedliskach pod Giżyckiem – Franciszka Biernikowicza (21.10.1919 Warancy pow. dziśnieński – 25.08.2003 Giżycko). Przy-

pomniał on o zbliżających się rocznicach urodzin i śmierci Konstantego Kalinowskiego: „Надыходзяць вялікія ўгодкі нарадзін і смерці Кастуся Каліноўскага. Уся яго дзейнасць ад пачатку да канца служыла інтарэсам беларускага народу і таму імя Кастуся Каліноўскага, вялікага нашага рэвалюцыянера – дэмакрата дарагое кожнаму беларусу. Тым больш дарагі ён нам, беларусам – жыхарам Беластоцкай зямлі, дзе правёў ён свае маладыя годы і пачаткі грамадска-палітычнай дзейнасці. Кожны культурны народ ушаноўвае памяць сваіх лепшых сыноў. Робяць гэта палякі, робяць гэта і іншыя народы. Ці можам мы, беларусы не памятаць аб сваім герoі і не ўшанаваць яго памяці? Хіба не! У сучасны момант ходзяць чуткі аб тым, што Галоўнае Праўленне БГ-КТ выступіла да дзяржаўных устаноў з просьбай пабудавання помніка Кастусю Каліноўскаму. Ініцыятыва вельмі цэнная, я аднак выражаючы свае собскія погляды адношуся да гэтай справы з песімізмам. Не таму, што не веру ў добрыя адносіны нашых дзяржаўных устаноў да беларускай справы ў Польшчы, а перш за ўсё таму, што наша дзяржава знаходзіцца ў цяжкіх эканамічных абставінах. Думаю, што прыдзе яна заўсёды нам з помачу, калі мы, беларусы ўложым свой уклад у гэту справу. Ініцыятыва павінна выйсці ад нас не толькі ў слове, але і ў дзейнасці. Выражаючы гэты погляд, высоўваю пад адрасам ГП БГКТ наступную прапанову: 1. Паклікаць з актыўных дзеячоў Беларускага грамадска-культурнага таварыства камітэт абходу 125-гадавіны нарадзін і сотай гадавіны з дня смерці Кастуся Каліноўскага. 2. Змабілізаваць усю беларускую інтэлігенцыю да гэтай справы. Адносна працы вышэй прапанаванага камітэта лічу патрэбным: 1. Утварыць спецыяльны фонд на пабудову ў Беластоку помніка Кастусю Каліноўскаму. 2. Выступіць да Беластоцкай Ваяводскай рады з просьбай выдзялення адпаведнай плошчы пад гэтую пабудову. 3. У рамках існуючага Выдавецкага фонда пачаць працу над выданнем збору пісьмовай дзейнасці Кастуся Каліноўскага. 4. Аб'явіць конкурс на навуковую працу на беларускай мове аб Кастусю Каліноўскім. Можа некаторыя скажуць, што гэта задача не на нашы сілы. Дадуць прыклад нездавальняючай зборкі на існуючы Выдавецкі фонд. (...) Беларускім дзеячам жадаю верыць у свае сілы і паставіць на высокім арганізацыйным узроўню гэтую справу. У такіх абставінах наша ініцыятыва напэўна будзе падтрымана і ўстановамі і нашай дзяржавай".

Jesienią 1957 r. młody dziennikarz „Nivy" Sokrat Janowicz odwiedził w Wilnie Piotra Sierhijewicza, który w rozmowie z nim nawiązał do zainteresowania Konstantym Kalinowskim: „хачу яшчэ дапрацаваць партрэт Кастуся Каліноўскага. Sokrat Janowicz informował czytelników, że w Litewskim Republikańskim Muzeum Sztuki znajduje się wielkie płótno „Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў", zaś drugi wariant tej kompozycji znajduje się w Grodzieńskim Obwodowym Muzeum Krajoznawczym. Przy tym artykule zamieszczono reprodukcję obrazu „Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў" z komentarzem: „Ці часам гэта не ў Перацёскіх лясах легендарны"Дыктатар Беларусі і Літвы" выступае з прамовай да сваіх жаўнераў?"

Na początku stycznia 1958 r. w „Nivie" przypomniano o rocznicach urodzin Konstantego Kalinowskiego i powstania styczniowego: „Месяц студзень мае асаблівую вагу для беларусаў. У гэтым месяцы (21-га) мінае 120 год з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага, тым больш, што ў гэтым месяцы (22-га) адзначаем 95-ую гадавіну выбуху Студзенскага паўстання, у якім Кастусь Каліноўскі адыграў выдатную ролю".

W styczniu 1958 r. powołano Komitet Budowy Pomnika Konstantego Kalinowskiego. 20 stycznia odbyło się organizacyjne posiedzenie Komitetu. Na łamach „Nivy" relacjonowano jego przebieg: „прыйшлі прадстаўнікі навукі, культуры, ваяводскіх улад, палітычных арганізацыяў і грамадскія дзеячы. Паседжанне адкрыў старшыня Прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку – Станіслаў Юхніцкі. Настаў час – каб грамадскасць Беласточчыны ўвекавечніла памяць нашага выдатнага земляка – героя беларускага і польскага народаў, які ўзняў барацьбу супраць царызма" за нашу і вашу вольнасць". З цікавым дакладам на тэму дзейнасці Кастуся Каліноўскага выступіў пісьменнік Юзэф Кавальскі. Пасля даклада ўзніклі спрэчкі – як найлепш увекавечніць памяць Кастуся Каліноўскага. Перадусім, пастаноўлена назваць імям Кастуся Каліноўскага новапабудаваную школу ў Мастаўлянах, дзе ён нарадзіўся і ўстанавіць там мемарыяльную дошку. Пастаноўлена звярнуцца да Прэзідыума Гарадской рады нарадовай у Беластоку, каб адну з вуліц у горадзе назваць ім. К. Каліноўскага. Вырашана таксама распачаць дзейнасць дзеля атрымання сродкаў на пабудову помніка Кастуся Каліноўскага ў постаці Дома народнай творчасці, які-б быў названы імям Кастуся Каліноўскага, дзе-б гуртавалася праца польскіх і беларускіх самадзейных калектываў і ладзіліся-б іншыя культурныя мерапрыемствы. У заключэнні пасяджэння выбрана 30-асабовы Камітэт, які ўзначаліў старшыня Ваяводскай рады ў Беластоку, Станіслаў Юхніцкі. Powołanie Komitetu jako jedno z ważniejszych wydarzeń 1958 r. odnotował we wspomnieniach ówczesny redaktor naczelny „Nivy" Jerzy Wołkowyski: „1958. 20 студзеня, напярэдані 120-й гадавіны з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага, у клубе ТППР у Беластоку заснаваўся Камітэт пабудовы помніка нашаму слаўнаму земляку. Прысутнічалі палітычныя і грамадскія дзеячы, прадстаўнікі навукі і культуры. З дакладам аб дзейнасці Кастуся Каліноўскага выступіў пісьменнік Юзаф Кавальскі. Вырашылі будаваць помнік у форме Дома народнай творчасці, назваць адну з беластоцкіх вуліц імем Кастуся Каліноўскага, прысвоіць Кастусёва імя і новай школе ў Мастаўлянах. 30-асабовы камітэт узна-

чаліў старшыня Ваяводскай рады ў Беластоку Станіслаў Юхніцкі”.

Szczególne zainteresowanie Konstantym Kalinowskim przejawiała redakcja „Nivy”. Z okazji 120. rocznicy urodzin Franciszek Biernikowicz napisał artykuł biograficzny o nim jako o postaci mało znanej Białorusinom: „...многа лепшых сыноў нашага народа, аддаўшых сваё жыццё ў змаганні за яго вызваленне ёсць нам, беларусам, яшчэ сёння мала знаных. Да такіх належыць і наш народны герой – Кастусь Каліноўскі. Праўда, у апошнія часы гісторыкі, і ў тым ліку гісторыкі беларусы, займаліся гэтым пытаннем. Але ў сувязі з тым, што жыццё і дзейнасць Каліноўскага апрацоўвана з розных пунктаў гледжання і магчыма абмежаванага ліку крыніц, у творах іх знаходзяцца недахопы і супярэчнасці. Як-жа ў сучасны момант прадстаўляецца праўда аб Кастусю Каліноўскім? 21 студзеня (ст. ст.) 1838 г. у сям'і Сымона Каліноўскага ў вёсцы Мастаўляны, Беластоцкага павета, прыйшоў на свет Кастусь Каліноўскі. Бацька яго, некалькі кілометраў ад Мастаўлян у вёсцы Якушоўка меў невялікі маёнтак, а ў ім невялічкую ткацкую фабрыку. У гэтай мясцовасці Кастусь праводзіў свае маладыя гады. Пазнаваў жыццё тутэйшых сялян. Ад 1846 года да 1855 вучыцца ў школе ў Свіслачы. (...) Быў ён да апошняй хвіліны свайго кароткага жыцця непахільным змагаром за беларускую справу. У сваім звароце да беларускага народа пісаў:”Ваюй народ, за свае чалавечыя і народныя правы, за сваю веру, за сваю зямлю родную!” Franciszek Biernikowicz akurat studiował zaocznie historię na Uniwersytecie Warszawskim i pod kierunkiem profesora Henryka Samsonowicza pisał pracę magisterską o Konstantym Kalinowskim, dlatego też wśród Białorusinów w Polsce był wówczas jego największym znawcą. W tej „Nivie” zamieszczono także obok artykułu portret Konstantego Kalinowskiego oraz fragment poematu Michasia Maszary, poświęconego bohaterowi powstania styczniowego:

*Паўстанне згашана, зламана,*
*лікуй і цешся, Мураўёў:*
*табой заглумлена, стаптана*
*надзея вольнасьці ізноў.*
*Пад цяжкім ботам мураўёўскім*
*замоўкла Беларусь і Польшч*
*і сам нат грозны Каліноўскі*
*ужо цару не страшны больш.*
*Пануры мур – астрог... і краты*
*у лёху цёмным і глухім*
*як леў зняволены,”дыктатар”*
*сядзіць, закуты ў ланцугі.*
*...*
*Чаргой праходзяць успаміны*
*у сумных думках змагара*
*– Не страшна згінуць...*
*Трэба – згіну.*
*Я знаю – гіну не дарма*
*Паўстане край мой,*
*край любімы...*
*Яму я волю абвясціў*
*Цябе, народ,*
*цябе, радзіма,*
*як я,*
*ніхто так не любіў.*
*І веру я,*
*што голас сына,*
*якога кат вядзе на крыж,*
*прайдзе, як гром, па ўсёй краіне*
*і ўскалыхне нямую ціш.*
*Няхай ты спіш яшчэ народзе,*
*няхай пакутай і цямрой*
*твой кат у дзікім карагодзе*
*яшчэ глуміцца над табой.*
*Але ні гора, ні няволя,*
*што ў хаце сталі на папас,*
*не згасяць зор тваіх ніколі,*
*што ткуць свой шлях у прышлы час.*
*І вы, муры маёй вязніцы,*
*вы – сведкі крыўды і пакут,*
*вас хутка крыллем навалніцы*
*змяце з зямлі працоўны люд.*

Dowodem zainteresowania Konstantym Kalinowskim był opublikowany w „Nivie” artykuł białoruskiego pisarza Ilii Kłaza o potomkach Kalinowskich na Białorusi: „Кастусь Каліноўскі! І перад намі ўзнікае мужны, адкрыты твар, злёгку выгнутыя бровы, удумлівыя вочы, густыя пасмы русых валасоў... Гады і падзеі не пашкадавалі ні хаткі ў Якушоўцы, што ў сямі кілометрах ад райцэнтра Свіслач, дзе правёў сваё дзяцінства Кастусь, ні будынка прагімназіі, дзе вучыўся будучы змагар за волю і шчасце беларускага народа. Час захаваў для нас толькі некалькі фотаздымкаў Кастуся Каліноўскага, ды паданні аб храбрым Світцы, якія перадаваліся з пакалення ў пакаленне. (...) Удзячныя патомкі склалі не мала вершаў і песень аб народным багатыру. На сцэнах тэатраў ішла п'еса аб Каліноўскім, кінорэжысёры адлюстравалі яго вобраз на экране, гісторыкі і літаратуразнаўцы напісалі многа прац і манаграфій. Не так даўно закончыў аповесць аб Каліноўскім аўтар гэтых радкоў. І ў часе працы не давала спакою ўпартая думка: ці ёсць у жывых сваякі Кастуся Каліноўскага? Дзе яны? Адны знаёмыя, рэкамендавалі спыніць пошукі, іншыя раілі пісаць лісты да некаторых людзей, якія носяць прозвішча Каліноўскіх. Дапамаглі сябры. Адзін з іх пазнаёміў мяне з настаўніцай сярэдняй школы Мінска, Станіславай Мышанковай–Каліноўскай. – Так. – адказала яна. – Далёкае сваяцтва ёсць. Але якое – не растлумачу. Аб гэтым лепш раскажа мой дзядзька Франц Эмануілавіч Каліноўскі.... адрас: Гомельская вобл., Парыцкі р-н,

Бацькі не змогуць прыдбаць дзіця без спецыяльнага дазволу. Хто і як будзе рэгуляваць гэты працэс, Настарадамус не выявіў.

Будзе знойдзена крыніца таннай энергіі. Згодна з прароцтвам, гэтая энергія будзе ад Сонца. Настрадамус расказвае пра спутнік, які будзе лятаць на арбіце Зямлі і забяспечваць людзям танную энергію.

Землятрусы ў ЗША. Гэтая катастрофа пачнецца як вялікі землятрус, які ў кароткім часе мае перарасці ў выбух супервулкана. Загінуць тысячы людзей. Многа месц будзе сцёртых з твару Зямлі.

Людзі пачнуць разумець мову звяроў. З развіццём тэлепатыі ды здольнасцей народы стануць лепш разумець мову звяроў і навучацца чытаць іх думкі. У свеце знойдзецца многа вегетарыянцаў, якія будуць актыўна змагацца з забойствам звяроў на ежу.

Ратунак прыйдзе з Усходу. Медыцынскі падыход аснаваны на тэхналогіях перастане быць актуальным. Яму на змену прыйдуць метады, які зацвердзяць перамогу духоўнага пачатку. Сучасныя тэхналогіі заменіць старадаўняя кітайская медыцына. Яна дазволіць чалавеку самому вылечыць свой арганізм ад усялякай хваробы.

Папа рымскі будзе забіты. Наступны папа будзе гэта моцная, харызматычная асоба. Ён будзе забіты падчас паездкі за мяжу Гэты выпадак зварухне ўвесь свет і давядзе да святой вайны. Цэрквы ў звычайным выглядзе перастануць існаваць, а людзі прадоўжаць маліцца і будуць устанаўляць свае асабістыя адносіны з Богам.

Сыны Бога і чалавека змяшаюцца. Анёлы будуць усё часцей спускацца на Зямлю і кантактавацца з простымі смяротнікамі. Яны будуць адкрыта жыць і прапаведаваць сярод людзей, але ўсё роўна канец свету настане. Згодна з прагнозамі Настрадамуса, гэта адбудзецца ў 2436 годзе. *Працяг будзе*

**Васіль Петручук** ■

***Гутарка***

# *Яўген Палубятка:*
# *„На тое мы людзі, каб быць рознымі...”*

**Нядаўна адзначыў сваё 60-годдзе беларускі грамадска-культурны дзеяч, журналіст, пісьменнік з Мастоў Язэп Палубятка. Напярэдадні юбілею я наведаў юбіляра ў Мастах, дзе мы, ходзячы па беразе спакойнага Нёмана, гутарылі найперш пра яго жыццё і творчасць. Сёе-тое з нашай гутаркі я занатаваў у свой блакнот і прапаную чытачам „Czasopisu”.**

**Спадар Язэп, з якім настроем Вы сустракаеце свой юбілей? Што за гэтыя гады ўдалося ажыццявіць і чаго не ўдалося?**

– Юбілей сустракаю з працоўным настроем. Акрамя працы ў „Газеце Слонімскай”, працую фізічна. Працую, каб здабыць сродкі для выдання сваіх даўно напісаных твораў. Патрапіць у сучасныя літаратурныя часопісы сёння рэальна немагчыма, а хадзіць з працянутаю рукою па спонсарах не па мне. Што ўдалося здзейсніць, а што не? Удалося шмат напісаць і толькі невялікую частку надрукаваць. А яшчэ давялося пабачыць свет і людзей. Я іх не дзялю ні на добрых, ні на кепскіх. Успрымаю іх такімі, якія яны ёсць. І хачу, каб так успрымалі мяне. На тое мы людзі, каб быць рознымі: кахаць і ненавідзець, дамагацца поспеху і мець паразы, быць багатым ці бедным, здаровым ці хворым. Чаго б не адбылося з табою: толькі не зайздросць і не кляні. Ва ўсіх выпадках кажы: „Дзякуй на добрым слове!”

**Ведаю, што ў вольны час Вы займаецеся краязнаўствам і грамадскай дзейнасцю. Чытаў вашы добрыя артыкулы пра Міхася Явара, Сяргея Крыўца і іншых малавядомых, але таленавітых і забытых асобаў. Ці не пара гэтыя даследаванні сабраць пад адну вокладку і выдаць асобнай кніжкай?**

– Грамадскай дзейнасцю займаюся больш за трыццаць гадоў і буду займацца да скону дзён сваіх. Не тое, што гэта мне вельмі даспадобы. Па-першае, гэта мне дае магчымасць мець большыя стасункі з вялікім колам людзей. Па-другое, я хачу бачыць Беларусь іншай, іншай ва ўсіх адносінах, як палітыкі так і жыцця. Сённяшні стан у Беларусі напамінае мне адзін эпізод майго маленства. Хутар наш Боркі з дзевяці хат, дзе прайшло маё маленства быў непадалёку ад Нёмана. І ўсё лета мы, дзеці, прападалі там. Мне было шэсць гадоў. Плаваць не ўмеў, але плёскацца ў вадзе любіў. І вось аднойчы патрапіў у яму і стаў тануць. Па сённяшні дзень памятаю, як не хапала тады мне паветра. Вось і зараз мне не хапае па-

ветра. Толькі іншага паветра. Што датычыць краязнаўства, то тут пытанне перабольшанае. Падставай для напісання тых матэрыялаў стала просьба майго сябра-земляка Аляксея Сабасцяна, які даследаваў па рэальных фактах жыццё Крыўца і Явара. Я толькі іх апрацаваў. Каб нешта дадаць сваё, трэба папрацаваць у архівах. А ў гэтым я не спецыяліст, хоць штосьці давялося зрабіць. Прыкладам, аднавіць помнік паўстанцам 1863 года ля вёскі Пацавічы Мастоўскага раёна. Таксама



**Язэп Палубятка з маці, дочкамі і пляменнікамі**

– помнік воінам 70-га Гарадзенскага дабраахвотнага палка 1 БЛД у Левых Мастах, якія падчас савецка-польскай вайны ў ліпені 1920 года на пераправе праз Нёман разбілі 6-ю армію бальшавіцкага камандарма Лазарэвіча. Даследаваць бой расейска-германскіх войск жніўня 1915 года ля вёскі Дашкаўцы, дзе з абодвух бакоў загінула па тысячу чалавек. Аднак, яшчэ раз паўтаруся, на мэце ў мяне іншае.

**Ведаю, што некалі Вы актыўна супрацоўнічалі з часопісам „Вожык" і там актыўна друкавалі гумарэскі і фельетоны. Цяпер гэтыя жанры неяк забытыя, ды і Вы мала іх дзе друкуеце. Чаму?**

– Так, я доўгі час супрацоўнічаў з „Вожыкам", „Вожыкам" – дзевяностых. Быў пераможцам конкурсу „У гэтым свеце рознае бывае". Друкаваўся ў іх зборніку „Мястэчковы сэкс". Супольная праца скончылася пасля таго, як дзесьці ў сярэдзіне 1990-х гадоў была надрукавана мая гумарэска „Тутэйшы шляхціц". Там быў прыкладна такі выраз: „Народ наш цёмны, забіты. Ведае толькі камунізм, сацыялізм ды аднадушна абранага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, бо ён аб гэтым штодня сваім выбаршчыкам напамінае. Слова „шляхціц" упершыню чую". Але на працягу доўгага часу супрацоўнічаў не толькі з „Вожыкам". Былі таксама часопісы „Родная прырода", „Алеся". Шэраг апавяданняў друкавалася ў часопісе „Першацвет", жарты публікаваліся ў газеце „Наша слова", хоку – у „Культуры". Не прамінаў і „ЛіМ". Між іншым, я з'яўляюся аўтарам чатырох друкаваных аповесцяў.

**Чым Вы сёння займаецеся ў сваіх Мастах? І, наогул, чым цяпер жыве Ваша родная Мастоўшчына?**

– Адказ той жа, як і на першае пытанне. Працую. А што датычыць Мастоўшчыны, то кожны выжывае, як можа: нехто едзе на заробкі, хтосьці з'язджае назаўжды, іншы бамжуе. Астатнія абы дзень да вечара. Мы ні чым не адрозніваемся ад іншых рэгіёнаў. І гледзячы на гэта – ой, як не хапае паветра!..

**З кім Вы, жывучы ў Мастах, сёння кантактуеце, сустракаецеся?**

– Кантактую з тымі, з кім напачатку 1990-х пачынаў Адраджэнне на Мастоўшчыне: Лёвам Бартошам, Аляксеям Сабасцянам, Лявонам Карповічам і іншымі хлопцамі. А таксама з моладдзю, што былі і засталіся вернымі нашай справе.

**Што сёння хвалюе Язэпа Палубятку, аб чым думаецца, што пішацца?**

– Думаецца і ў планах толькі адно: выдаць творы, якія я лічу для сябе знакавымі. Найперш – гэта раман „Душнае лета 1989 года". Раман напісаны ў першай палове дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя. Твор прысвечаны людзям Адраджэння. Прататыпам галоўнага героя Гурыновіча з'яўляецца мой сябра. І іншыя героі твора спісаны з рэальных асобаў. Раман напісаны па гарачых слядах. Чытаючы яго зараз лаўлю сябе на думцы: не спакусіцца бы на праўкі, інакш згубіцца дух таго часу. Малады чытач можа не зразумець яго, бо ён не дыхаў паветрам таго часу, а мы глыталі яго напоўніцу. На другім месцы – трылогія „І ўсё вяртаецца на кругі свая".

Вось такая мая асноўная жыццёвая задача. Я нават не думаю пра іншыя творы, якія гатовы для друку і вялікіх выдаткаў не запатрабуюць. Гэта мая першая аповясць „Даўгі нашыя" напісаная ў 1985 годзе, якую некалі ўхваліў Аляксей Карпюк і параіў знайсці добрага рэдактара. Тады я не стаў шукаць рэдактара, бо меў шмат задумак і тэм – ды пісаў. І таксама не бяру да ўвагі закончаныя, ды на сённяшні дзень, актуальныя творы, такія як „Правільнае рашэнне таварыш прэзідэнт" ды „Вандроўка ў Чыкага", а таксама гістарычны раман, які прысвяціў сваёй цётцы Любе – „Старая, старая і адзінокая жанчына".

Кніжка для мяне больш важкі аргумент, чым электронная версія. Кніжка можа заляжацца на паліцы, калі аўтара забудуць. Электронную версію таксама могуць забыць, але яе можа яшчэ і знішчыць вірус. Жартую.

**І ўсё ж, надзея памірае апошняй…**

– Маю надзею дажыць і пабачыць новую Беларусь!

*Гутарыў*

**Сяргей Чыгрын**

# *Рэцензіі, прэзентацыі*

## Гісторыя ствараецца сягоння

Асаблівасць гісторыі – яе адначасовая прыналежнасць і да гуманітарнага, і да грамадскага сектараў навукі. Мікалай Бердзяеў сцвярджаў, што гісторыю вызначаюць тры сілы: Бог, лёс і чалавечая свабода. Несумненна, пад свабодай філосаф меў на ўвазе не толькі знешнія фактары, якія дазваляюць рэалізавацца, а і ўласную волю неардынарнага чалавека, здольнага змагацца за ідэю нават у неспрыяльных умовах.

Не сакрэт, што асаблівасць нашай тэрыторыі якраз у тым, што спрыяльныя ўмовы для раскрыцця асобы тут могуць быць толькі фрагментарнымі: занадта моцны ўплыў дзяржаў-суседак і сістэматычнае знаходжанне ў зоне баявых сутыкненняў робіць няпэўнымі як само існаванне, так і светапогляд тутэйшага люду. Заўсёдная гатоўнасць прысягнуць больш магутнаму ўладару, прыхаваць сваю нязгоду, падмяніць адданасць Айчыне вернападданасцю, часова забыць пра свае карані – частка буфернага менталітэту, умова выжывання.

Аднак і наша тэрыторыя параджае асобаў, здольных выявіць сябе, несці ідэю нацыянальнай адметнасці, адзначыцца ў сусветным кантэксце.

Менавіта такім людзей прысвечана серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры» (скарочана – «100 выдатных дзеячаў»), заснаваная напрыканцы 2012 года. Заснавальнік, каардынатар і рэдактар серыі – Анатоль Та́рас, мастацкае афармленне серыі Б. Г. Клюйка, выдавецтва – ТДА «Харвест» пры падтрымцы Інстытута беларускай гісторыі і культуры (ІБГіК).

З часу заснавання серыі па сённяшні дзень выйшла 40 кніг, якія падрыхтавалі да выхаду Вітаўт Чаропка, Алесь Мінскі, Анатоль Тарас, Алесь Марціновіч, Ірына Шумская, Анатоль Валахановіч, Алесь Тамковіч, Алесь Пашкевіч, Анатоль Астапенка, Алесь Лапо, Аляксандр Мялік, Арсень Ліс, Святлана Шахоўская, Яўген Гучок, Дзмітрый Дзятко, Аркадзь Падліпскі, Сяргей Гваздзёў, Міхаіл Пінчук, Леніна Міронава, Алесь Ненадавец, Леанід Лаўрэш і іншыя творчыя асобы, спрычыненыя і неравнадушныя да гісторыі Беларусі, яе культуры і мовы, а таксама – далейшага лёсу.

Зразумела, што парадак падання дзеячаў беларускай гісторыі ў серыі не поўнасцю сістэмазаваны (хоць асноўная частка іх вызначана заснавальнікам і каардынатарам серыі), бо дыктуецца тэрмінамі падрыхтоўкі рукапісаў, магчымасцямі выдавецтва, матэрыяльнымі фактарамі. І не ўсе дзеячы аднолькава знаёмыя нават свядомаму беларусу. Магчыма, асвятленне некаторых знакавых для Беларусі фігур у наступным будзе патрабаваць больш дбайнага падыходу. Нічога, гатовае і да ладу давядзецца, і па месцах расставіцца…

Несумненна і тое, што выбітных дзеячаў значна больш, чым пазначана ў назве праекта. Больш за тое, трэба памятаць, што яны і сён-

ня жывуць, працуюць, змагаюцца побач з намі. Аднак сама ідэя і яе рэальнае ўвасабленне – вялікі крок наперад і перспектыва прасвятліць нашу не заўсёды празрыстую гісторыю ў цэлым і гісторыю культуры ў прыватнасці.

Трэба адзначыць, што нават крызісныя тэндэнцыі не спынілі рух некамерцыйнага праекта, асновай якога з'яўляецца валанцёрскі ўдзел і добраахвотная падтрымка. Разуменне, што гісторыя творыцца цяпер і тут, дапамагае заснавальніку серыі, аўтарам і выдавецтву рабіць справу, якой наканавана стаць важнай часткай гісторыі культуры Беларусі.

Кнігі серыі «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры», якія выйшлі цягам часу ад пачатку заснавання серыі да 2015 года ўключна, прадстаўлены ў калажы.

**Юрась Нераток**

**Юрась Нераток** (Гарбачоў Юрый Юр'евіч) нарадзіўся ў Мастоўскім раёне Гродзенскай вобласці ў сям'і настаўнікаў-філолагаў. Дзяцінства правёў у весцы Хадакі Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут (цяпер – БНТУ). Жыве і працуе ў Мінску. Па асноўнай прафесіі – канструктар.

Мае больш за 300 публікацый ў больш чым у 50-і выданнях, удзельнічаў не менш чым у 20-і калектыўных зборніках, рэдактар больш 20-і кніг паэзіі і прозы на рускай і беларускай мовах, у тым ліку – калектыўных.

Аўтар кніг вершаў „Фотаальбом" (2003г.) і „Споведзь струны" (2011г.), кнігі прозы „Закуцце" (2007г.), асноўны аўтар і ўкладальнік калектыўнага зборніка-алігата „Рэцэпт ад песімізму" (СМС-праект) і „Буслан і Жабміла" (калектыўная электронная паэма) (2012 г.). Прыняты ў Саюз беларускіх пісьменнікаў у 2005 годзе, член Саюза пісьменнікаў Беларусі з 2008 года, член-заснавальнік Народнага клуба паэтаў і кампазітараў „Жывіца" (2015г.).

У рускамоўнай літаратуры вядомы пад псеўданімам „**Юрий Юлов**", аўтар кніг прозы „Пьяный материк" і „Экспедитор" (абедзве – 1999г.), зборнікаў вершаў „Монодия" (2000г.) и „Сон-дежавю" (2001 г.), зборніка баек „Абстрактно о конкретном" (2000 г.), чатырох кніг серыі „МИФ" (Мужская интеллектуальная фантазия): „Мутант", „Фермер", „Терапия", „По дороге на пикник" (2012 г.). Член Саюза расійскіх пісьменнікаў (2002г.), член Міжнароднага Саюза пісьменнікаў „Новый современник" (2011 г.).

**Eugeniusz Kabatc**

# *Młyn nad Narewką*
## *[Wprowadzenie do polskości]*

### Prolog

Młyna nad rzeką jeszcze nie było, ale już mełł nasze losy, miażdżąc je po swojemu lub je odradzając.

Przekroczyliśmy Narewkę o świcie. Bród był płytki, konie nie umoczyły nawet brzuchów, wkrótce słońce wytoczyło się nad puszczę, krwawiąc łąki leśne zapowiedzią przyszłych tu wydarzeń...

Było południe, kiedy w brzozowej szczelinie, jakby rozciętej silnym uderzeniem niebiańskiego promienia, ukazał się nam myśliwski pałacyk pana Tyszkiewicza. Tam właśnie zmierzaliśmy: zielenił się w zielonym otoczeniu, zapowiadał pokój z przyrodą, nawet z naturą człowieka, więc Margrabia uśmiechnął się po raz pierwszy podczas tej długiej podróży.

Wielorako niewygodna była to eskapada. Nasamprzód cechowało ją to, że od początku była głęboko utajniona. Margrabia wyruszał ze stolicy incognito, karetą pocztową przez Siedlce i Bielsk, Puszczę przecinając potem konno w towarzystwie jedynie przewodnika. W Pałacu Namiestnikowskim miało go nie być przez tydzień, Rosjanie mieli być powiadomieni o nieobecności szefa rządu warszawskiego post factum, gdy miałby odpoczywać i polować w swoich rodzinnych włościach na Kielecczyźnie. Niezadowolenie służb i Petersburga z tego powodu zapisywał Margrabia w bilansie zysków, licząc się, że mogą być ryzykowne, ale i ostatnie. Warszawa się burzyła, nie przyjmowała do wiadomości jego nadzwyczajnych zabiegów i historycznych kalkulacji, napięcie objęło także ziemie wschodnie, najmniej świadome groźby ostatecznego unicestwienia ojczyzny.

Nie jestem biegły w dziejach Rzeczypospolitej tak wielu narodów, że nie pamiętają one jak się zwą, ale spotkanie na Żarkowszczyźnie przeżyłem jako okrutną lekcję wielkopaństwowego nieporozumienia. Margrabia – toutes proportions gardes – podobnie. Jeszcze raz zdążył się uśmiechnąć, gdy usłyszał z ust witającego: „My, Polacy, zawsze jesteśmy jedno...". Ale to już był ostatni tutaj jego uśmiech. Wkrótce i tu wszystko zaczęło się obracać przeciwko niemu.

Przybył w te trudne strony w potrzebie osobistej, gracza, któremu każdy ruch urastał do sprawy narodowej, ba, do dziś pozostającej w istocie najważniejszych w naszych losach. Znali się z Tyszkiewiczem jeszcze z czasów powstania listopadowego, rozstali się niegdyś w przyjaźni, choć postawy przyjęli dziwnie niespójne. Pan Tyszkiewicz zapadł w knieje litewsko-ruskie, w majętności wielkie i szkolnictwo rolne w Świsłoczy, gdy Margrabia w Królestwie Kongresowym polszczyznę przemysłową uprawiał i nią z łaski wspólnego, choć obcego cara i króla zarządzał. Nie próżnowali tedy hrabia świsłocki, w narastającym buncie młodzieży szukając nowej wolności i margrabia pińczowski młodzież Królestwa wprzęgając do pracy w spękanym jarzmie zaborcy. Dwie drogi przyjaciół były bliskie sobie, lecz się fatalistycznie mijały. Czy mogły się spotkać, by wielkie czyny Panów Patriotów skierować ku jednemu przeznaczeniu? Czy sosny i brzozy nie rosną w puszczy razem? – pomyślałem kiedyś, zapominając o dębach.

Pan Tyszkiewicz, skądinąd mój preceptor szkolny w Świsłoczy, co w tej opowieści nie jest bez znaczenia, przyjął starego druha z dyskretną uniżonością. Panowie myśliwi, którym przedstawiono przybysza jedynie jako posła od Margrabiego, najpierw potraktowali go raczej z rozbawieniem niż powagą. Właściwy cel wizyty emisariusza nie został ujawniony przed polowaniem. Same łowy w kronikach miejscowych nie były potem odnotowane jako bardzo udane. Można złożyć to na karb już narastającego w okolicach napięcia, ale i myśl gościa wybiegała daleko poza puszczańskie obszary, *liberum conspiro* było uczuciem, jakie tu, w białowieskich gąszczach leśnych, wśród godnych zaufania przyjaciół, otwierało usta i serca w stronę tej kolejnej, historycznej decyzji, w której objawi się wkrótce straceńczy patriotyzm arystokratycznej braci. A zjechało się jej wtedy do pana Tyszkiewicza grono dobrane, „zagon przedni", jak obwieścił to hrabia dowódczy. Z rodów wrośniętych w te ziemie od dawna, z okolic niekoniecznie bliskich, bo niektórzy aż z Wileńszczyzny tu się przebili, a wśród nich Czartoryski, Kalinowski, Massalski, Sanguszko, Sapieha, Siehień, co już marszałkiem ostawszy toczył o grunta wołkowyskie sądowe boje; nawet mniejszy Radziwiłł się zjawił.

Ubita zwierzyna tylko prze krótką chwilę była przedmiotem rzeczowego zainteresowania. A po rozlaniu litrów okowity dla ludzi z nagonki, których gospodarz nazywał ludem, podniósł się gwar sprzecznych głosów i słów, wśród których Margrabia usłyszał i mowę ruską, kierującą jego uwagę na plac głównego boju. Odczekał jednak, aż chłopi się rozejdą, wypatroszywszy przedtem ze znawstwem rozłożonego na podjeździe żubra w wieńcu dzików i paru jeleni. I kiedy zdawało się, że wszystko, co było emocją dnia, już się skończyło, wtedy naprawdę dopiero się zaczęło. Przynajmniej dla mnie i mojego pojmowania drogi, na którą wepchnęła mnie historia.

Poszło o to zdanie przekleńcze, które dopadło naszych uszu, gdy skierowaliśmy się ku schodom dworku jeszcze z triumfalnie po myśliwsku kielichami w ręku. Byliśmy ostatni z rzeszy gości, Margrabia odwrócił się za siebie, by pożegnalnym okiem objąć pobojowisko z rozpłatanymi wnętrzami zwierząt i wtedy usłyszał ten krótki dialog dwóch chłopów, zajętych wciąż jatkami. Jeden skarżył się drugiemu w naszej mowie: „Jamu heta tolki świata, harełku pjuć, ale hrosza nie daduć." A drugi tylko zaklął jak mój dziadek, choć bez wielkiego gniewu: „Kab jon na hare stajau i sonca nie baczyu".

Czemuś Margrabia przyjął to do siebie, gdy mu przełożyłem sens gorzkiego życzenia. Nie od razu zareagował, ujawnił ten swój niepokój podczas kolacji, kiedy zabrał głos przy toaście za losy ojczyzny. Podjął rzecz gospodarz, zwracając się do gościa z Warszawy wprost, jak do emisariusza rządowego, ujawniając jego tu rolę. „Tak dalej być nie może", posłużył się powszechnym frazesem zbuntowanych, nieznośna rosyjskość panoszy się tu jak na swoim. A Królestwo bez nich to jak kadłubek bez głowy, tak, tak, wszak nie w Warszawie mózg polskości dziś ożywa, trzeba zewsząd podtrzymać ten ruch wyzwolenia. Za Mickiewiczem, „wielkim naszym", sumował swoją myśl sprzeciwu i walki: „Niech gwałt się gwałtem odciska!".

Nie było to jednak płomienne przemówienie; hrabia mówił tak, jakby myśl lenną snuł wbrew sobie, choć od razu wskazując na kierunek nieodzownych decyzji. Co inni mówcy podchwycili, żądając pilnej, lecz tajnej jeszcze, zmowy ku czynom zbrojnym, powszechnie powstańczym. „Poderwać lud do boju!" – krzyczano bodaj nazbyt głośno. Tumult się zrobił, „burzliwość polska", jak ocenił to potem Margrabia, podejmując wyzwanie i gasząc, jak mu się wydawało, ów niewczesny ogień w zarodku. Nie pora, mówił, nie pora gołe szyje podstawiać pod topór pałacza. Nie mamy ich czym osłonić, nawet lud tutejszy nie pójdzie za wami, już nie jest niewolny, lecz wyzwolenia z dybów nawet wy mu nie daliście. Jest innej wiary, innej mowy i widzi was nad sobą, wysoko, lecz bez światła, u innego Boga. Tedy komu tę polskość chcecie przywrócić, po co, by łatwiej tym ludem władać?

Nie byłem jeszcze gotowy, by ogarnąć to wszystko, wartość słów była mi często obca, zgiełk głuszył sens różnych racji, ale garść ich wyniosłem z tego długiego wieczoru niczym parzące kartofle. Nie wiedziałem, co mógłbym z nimi zrobić w spiralach sporu, narastającego coraz gwałtowniej, aż po kulminację wzajemnych oskarżeń o zdradę. Zapamiętałem, że najpierw obwinionym o sprzeniewierstwo stał się Margrabia, który miałby pójść na służbę Moskali. Nie Moskali, jeno cara, próbował uściślić Margrabia tym swoim spokojnym, rzeczowym głosem preceptora, który ma zapanować nad rozkapryszoną klasą logiką faktów. Car jest królem Polaków, jego Rosjanie nie pomagają mu w tym, a ja pomagam. Przypomniał rozgniewanym panom braciom co jego rząd dla utrzymania polskości narodu uczynił i czyni. Pozbyliśmy się Moskali w urzędach,

szkołach i bankach, rozwinęliśmy polski przemysł i handel, uwalniam chłopów z oków wielowiekowej pańszczyzny... Zakrzyczeli go: W Królestwie! Nas w Wielkim Księstwie oddałeś w pacht petersburskim gubernatorom! Za nasze więzy kupiłeś sobie władzę w Warszawie!

Wspomniałem już: nie byłem ja z tych, co pojmowali należycie ówczesną gorączkę napięcia historycznego, ale mój młodociany umysł, głęboko poruszony starciem nie pustej przecież retoryki, usilnie zabiegał o jakieś uporządkowanie wydarzeń. Nim rozstałem się z Margrabią w jego drodze powrotnej do stolicy, dowiedziałem się o najtrudniejszej sprawie Polaków: o stałej, często wręcz krwawej, niezgodzie między nimi. Niewiele brakowało, by do takiej zwady doszło jeszcze podczas tej spiskowej nocy. Zimna krew i nieulękły spokój Margrabiego tudzież opanowanie gospodarza, który w pewnej chwili został powołany na świadka wcześniejszych wydarzeń politycznych, pohamowały rozjuszonych, sięgających po broń biesiadników. Stało się to po wyznaniu gościa, że nie przybył tu, by z nimi spiskować, lecz by ich od fatalnej zmowy odwieść.

„Staniesz przeciwko nam, carosławny graczu?" – uniósł się głos z młodzieżowego kąta. Na niedługą chwilę zapadła taka cisza, że słychać było zza okna zgrzyt drzew ścierających się z sobą w księżycowym wietrze. Coś podobnego działo się też za stołem, wśród tego młodego i starego lasu ludzi, wyrastających razem ku nieznanej swobodzie... „Moskali poprowadzisz na swoich braci?" – zaszumiało prowokacją w podchmielonych głowach. Margrabia miał teraz twarz żałobnika, którego przedwcześnie zaproszono na stypę. Był zapewne speszony tym bezpośrednim atakiem, ale nie dał tego poznać po sobie. Wyjaśnił skromnie, że nigdy nie stawał przed nikim w roli przywódcy. „Ale wiedziesz naród polski do zguby!" – huknął któryś zza stołu głosem Wernyhory. „Donikąd narodu nie wiodę – zaprzeczył Margrabia, cedząc słowa. – Chcę go jedynie powstrzymać przed krokiem w przepaść...". Przypomniał im o katastrofie insurekcji kościuszkowskiej i o tragedii powstania w listopadzie trzydziestego roku. „Byłem wtedy jak wy dziś – zwrócił się do młodych. – Wierzyłem, że pomogą nam potężni, pełni obietnic przyjaciele z Zachodu. Bóg mi świadkiem, a i pan Tyszkiewicz, co po bratersku dzielił ze mną los powstańczy, żeśmy w Londynie, jako emisariusze rządu naszego w sprawie stawali, żeby serca i miecze Albionu poruszyć. Jak wiecie, na nic się to nie zdało, majątków im było szkoda i profitnych układów z wielką Rosją, nam kark łamiącą.... Milczenie wtedy na krótko zapadło, jedynie pan Tyszkiewicz pokiwał głową, a gdy się odezwał, rzekł: „Dziś liczymy tylko na własne moce".

Margrabia aż klepnął się w czoło. „Jakie moce, druhu mój miłościwy? Czy my mamy jakieś moce? Poza tym romantycznym duchem pana Mickiewicza, który zapłacił za swoje szlachetne fanaberie nie tylko własnym życiem, nie mamy nic!". „Mów pan za siebie!"– zwrócono mu uwagę. „Ani jednego pułku!" – upierał się Margrabia. „Stworzymy go! – zawołano butnie z kąta. – Wystawimy całą armię!" „Z czego ją stworzycie? – zapytał. – Z białoruskiej czerni?". „Nie obrażaj pan ludu naszego! Toż to nasi bracia!".

Młody człowiek, który tak stanowczo zareagował, aż się uniósł nad innych w swoim oburzeniu. Był wysoki, wyróżniał się pewnością siebie, ale nie on sam odwołał się do pewności w czynach. Zrobił to gospodarz, który przypomniał nie tylko Margrabiemu, że pan Kalinowski po swojemu prowadzi u siebie odważną działalność oświatową. W naszej okolicy puszczańskiej był mniej znany, ale z Wileńszczyzny dochodziły wieści, że wydaje tam poza wszelką legalnością druki w mowie wiejskiej, nazywane „Mużyckaja prauda".

Odtąd już wszystko szło ku gorszemu. Na takie dictum Margrabia wydął pogardliwie wargi. „Jeśli ta chłopska prawda nie jest jeszcze jedną romantyczną bajką – wycedził przez zęby, ale tak, żeby wszyscy słyszeli – to, panowie wielmożni, zawiśniecie na szubienicy rychlej niż ja...". Hyr poszedł po wielmożach ni to oburzenia, ni to grozy, on jednak nie miał już dla swojej braci kresowej żadnej litości. Wyłożył swoją, ostrą jak polityczna mądrość, prawdę o historycznej rzeczywistości znękanej ojczyzny.

„Oni pójdą z carem i zapędzą was do lasu. Nie macie pojęcia co to nowoczesne wojsko, co to dyscyplina i broń. Najpierw nauczcie się tego od swoich wrogów, wejdźcie do ich szeregów". „Oszalałeś?!" – tego nie wytrzymał nawet pan Tyszkiewicz. Zauważyłem, że twarz mu się zmieniła, a w oczach wytrzeszczonych nad wszelki wyraz pojawiły się przebłyski paniki, jakby u osaczonego w mateczniku żubra. Nie był już przyjacielem Margrabiego, zaczął się go zwyczajnie bać. A ten zaostrzył ton. „Szaleństwo przeciw szaleństwu – zadekretował zimno jak stary wachmistrz przed walką wręcz. – Zarządzę brankę, a wy od cara nauczycie się, „jak zwyciężać mamy!".

Cisza spęczniała jak bomba przed wybuchem. A potem w zmagającym się gwarze protestów zrozumiałem tylko kilka słów: „To prowokacja!". „Czas z tym skończyć...."

Mieliśmy tu przenocować bezpiecznie, jak u Pana Boga za piecem. Ale gospodarz wzniósł ku rozgorączkowanym biesiadnikom ostatni kielich wina i wychylił go jednym haustem. Nie wiem, czy to był sakrament pokoju. Oznajmił, że minęła właśnie północ, więc zarządza nocne spanie. Ale gościa wziął pod ramię i wyprowadził go do sieni. Wyszedłem za nimi, nie słyszałem jednak o czym mówią; być może porozmawiali krótko, lecz dobitnie o tym samym, co przykuło i moją uwagę za czarnym oknem z czarną nocą wśród gwiazd. Wydało mi się, że las podchodzi do domu coraz bliżej, w bezszelestnej teraz fali gęstych drzew, skrywając koślawą ramę szubienicy...

„Nie zostawaj tu na noc – usłyszałem wreszcie głos gospodarza. – Tak będzie lepiej... Chłopak odprowadzi cię niezagrożenie do samego Bielska...

*

Nie zwlekając wyruszyliśmy na zachód, zatrzymując

się po drodze tylko wtenczas, gdy wydawało mi się, że do ślepej wizji szubienicy dołączał się dudniący tętent pogoni...

Dotarliśmy do Bielska, kiedy świtało. Kareta pocztowa cierpliwie czekała przed zajazdem, stangret tkwił na koźle nieporuszony. Przez całą dobę? – zdążyłem tylko pomyśleć, bo zaraz parsknęły konie i pojawili się kozacy z obstawy.

Margrabia położył mi rękę na ramieniu i postarzałym wzrokiem czekał na wschód słońca. Lada chwila miało wychynąć znad puszczy, ale tego dnia mogło nie wstać wcale. „Jestem wysoko, a światła nie widzę". Nie jestem pewien, czy tak usłyszałem.

– Bądź zdrów, synu – powiedział, ścisnąwszy mi silniej ramię. – Zapomnij o tym, coś widział i słyszał tej nocy... Ale zapamiętaj – dodał po chwili, unosząc głowę i jakby rzucając te słowa w przestrzeń historii: – Dla Polaków czasem jeszcze można coś zrobić, z Polakami – nigdy!

Słońce, choć krwawo, dobyło się jednak znad białowieskiej kniei, wstał kolejny niezwykły dzień, niezwykły pasażer wsiadł do karety i konie w zaprzęgu ruszyły z kopyta... ■

**Barbara Goralczuk**, Bielsk

## Anhieł

Chodit Anhieł po Zemlie,
Buoh joho posław,
Kob najszow dobrych liudiej,
I piercia rozdaw.

Ot, tut dobry hospodar,
Swoje koni kormit,
Nu, to Anhieł piercie daw
I poszow w dorohu.

Mati liuliaje ditia,
I weczeru waryt,
To dwa piercia dostała –
Boha błohodaryt!

Tam sołdat wartu dierżyt,
Sochranit ojczynu,
Anhieł piercie położyw,
Hołowoju skinuw.

Narzeczony diewki żde,
Kwitoczki trymaje,
I pierścionok maje też,
To i piercie dostane!

Anhieł baczyt, szto liudiej,
Mnuoho, usie dobry:
Oddaw pier'je, oddaw wsie,
Sam ostawsia hoły!

Jak wernutiś w niebiesa,
Koli kryła wiesiat?
Może lude puddierżat,
Pudkinut do neba?

U liudiej swoje dieła,
Koni, dieti, hroszy,
I ne Anhieł w hołowach,
Ono świet choroszy!

Sidit Anhieł puod werboj,
Nadieju pokinuw,
Ne pomoże samolot,
Ni żadna drabina.

Pudyszow naraz staryk,
Kulhawy, horbaty,
Sto hodow uże prożyw,
Toj berećcie wmirati.

„Oj, Aniołku muoj, newżesz,
Tak oskubali tebe!
Jak poszle Buoh po mene
Puojdem wsie do neba!"

**Анатоль Парэмбскі**, Валілы Ст.

## Упор і мазоль

На спрадвечна бацькоўскай зямлі,
Потам злітаю, горкай слязой,
Прыгажосці табе дадалі
Беларусаў упор і мазоль.

Ты Беларусь мая,
А я тваё дзіцё,
Найдаражэйшая,
Красуй усё жыццё,
Красуй усё жыццё.
Па векі вечныя
Народу пачуццё
Будзе сардэчнае.

Пражыла ты няволяў працяг.
Беларускі не здаўся народ.
Адрадзіўся народны твой сцяг.
Мэту вызначыў у мірны паход.
Ты Беларусь мая...
Толькі Бог сам магутны паняў
І падаў як прыяцель руку,
Хмары цёмныя паразганяў,
І заззяла ў кожным кутку.
Ты Беларусь мая...
І падняўся з каленяў народ
І ляглі па краіне шляхі.
Завядуць і на захад, на ўсход,
Скрозь даедзеш да сябраў сваіх.
Ты Беларусь мая..

На спрадвечна бацькоўскай зямлі
Не пазволім пакрыкваць на нас.
Лёс ва ўласныя рукі ўзялі,
А на простую вывядзе час.

**Валянціна Мядзведзь**, Беласток

## Успамінай

Успамінай
Успамінай мяне тады,
як душа заплача,
дык забуду я цябе,
не магу іначай.

Слёзы капаюць з вачэй,
а душа трывае.
Жаль за сэрца ўсё грызе
і не адпускае.

Выйду з хаты на парог,
усё зачну аднова.
І вясёлая душа
кахаць будзе другога.

Вытру вочы я ад слёз,
мая душа адтае,
жаль і крыўда ўцячэ,
сэрца заспявае.